# Як цябе завуць?

Дзень добры, сябры мае! Распавяду вам сёння я пра гутарку нядаўнюю, якую меў у цягніку, калі ехаў на зімовыя канікулы. Разгаварыліся мы ў вагоне з дзецьмі, якія гэтаксама ехалі да сваіх бабуль і дзядуль.

– Як цябе завуць? – пытаю ў першага.

– Сцяпан.

– А цябе?

– Андрэй.

– Ну а як тваё імя?

– Агата.

– А чаму цябе назвалі Агатай, ведаеш?

– Бо мама з татам хацелі, каб я была смелая, – не міргнуўшы вокам, – адказала дзяўчынка.

– А чаму тваё імя Сцяпан?

– Не, не ад героя Міхалкова, а ад першамучаніка Стэфана, – збіў усіх тут з тропу Сцёпка і дадаў: – Атрымаў яго я таксама на адвагу.

– Ды й на вернасць, мабыць, Езусу Хрысту... – выказаў і я сваю здагадку.

Андрэйка ж уздыхнуў, бо зусім не ведаў, чаму яго назвалі гэтак, а не інакш.

– Бабуля жартаваць любіла: «Андрэй за ўсіх мудрэй», але пры чым тут што? – сумеўся хлопец.

Сцяпан нахмурыў бровы:

– А можа гэта для цябе заданне – прафесарам якімсьці стаць?

На хвіліну ўсе прыціхлі, а потым вырашылі не губляць дарэмна часу, а дапамагчы Андрэю распазнаць, што імя ягонае азначае ды хто з вялікіх свету насіў яго й калі? Цікавае заданне, праўда? Ды й карыснае, згадзіцеся, таксама. Бо важна ж гэта чалавеку – ведаць пра сябе ўсё, ад самага пачатку. Усё невыпадкова ў нашым свеце – вы з гэтым згодныя, сябры? Таму дапамажыце і вы таксама нашаму герою даведацца штосьці пра яго імя. Ды й пра сваё тым часам можна распазнаць штокольвечы цікавае...

*З павагай – ваш*
*Маленькі рыцар Беззаганнай*



# Належыць Богу

Гэтага хлопчыка звалі Дамінікам. Дамінікам Савіо. Усе міністранты ведаюць хіба што яго. Бо часта перад Імшою і пасля Імшы яны моляцца праз яго заступніцтва – Дамінік Савіо з'яўляецца апекуном міністрантаў.

О, гэта быў вельмі смелы хлопец, і ён вельмі моцна любіў Бога! Адпаведна імені, якое яму далі ягоныя бацькі ў часе хросту. Яны назвалі яго Дамінікам. Ягонае імя азначала, што ён належыць Богу. І так сталася! Калі Дамініку было сем гадоў, ён прыняў Першую святую Камунію. У той час гэта была вялікая рэдкасць, бо тады дзяцей дапускалі да Першай Камуніі ў значна пазнейшым узросце. Аб духоўнай сталасці Дамініка сведчыла ўжо тое, што ў гэты памятны дзень ён добраахвотна прыняў на сябе такія абавязкі: часта спавядацца; пільнавацца святкаваць дзень святы; лепш памерці, чымсьці зграшыць. У гэты ж дзень ён выбраў сваімі лепшымі сябрамі Езуса і Марыю.

Ягонае жыццё было нядоўгім, але на працягу яго гэты хлопец не адступіўся ад сваіх словаў. Яго часта бачылі ў касцёле, а іншым разам людзі бачылі, як ён кленчыў перад зачыненымі дзвярымі касцёла і маліўся. Дамінік даваў іншым прыклад, як трэба шанаваць Найсвяцейшы Сакрамэнт. Аднойчы, калі па вуліцы ішоў да хворага ксёндз з Найсвяцейшым Сакрамэнтам, ён не толькі сам стаў на калені проста пры дарозе, але і ветліва падаў сваю насоўку афіцэру, які марудзіў укленчыць, бо не жадаў запэцкаць свае нагавіцы.

А яшчэ Дамінік ніколі не маўчаў, калі людзі гаварылі брыдкія словы. Ён ніколі не баяўся зрабіць заўвагу наконт брыдкаслоўя і дзецям, і дарослым. Згадзіцеся, сябры, нам ёсць чаму павучыцца ў гэтага святога!

*А. Барткевіч*

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 1 (59)/2013 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ, 220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2; **e-mail:** m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 4 000 экз. Заказ № 2181.
Падпісана да друку 15.03.2013 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

# Што ў імені тваім?



Кожнага з нас у часе хросту нашы бацькі назвалі нейкім іменем: Янам, Марыяй, Цімафеем, Кацярынай, Агатай, Данілам, Ірынай, Мацвеем... Чаму цябе назвалі менавіта так, а не інакш? Можа гэтае імя насілі твае дзядуля ці бабуля альбо хтосьці з прадзедаў? А можа такім іменем называлі кагосьці яшчэ з тваёй радні? Кагосьці, хто даўным-даўно праславіў ваш род? А можа твае бацькі далі табе гэтае імя ў гонар нейкага гістарычнага дзеяча альбо слыннага кампазітара, пісьменніка, паэта? А можа, даючы табе тваё імя, яны прагнулі, каб нейкі святы, які таксама насіў яго, асаблівым чынам апекаваўся табой?

Скажам, калі дзяўчынку называюць Марыяй, то гэта амаль заўсёды надзея на апеку Маці Божай альбо падзяка Ёй за ўжо выслуханыя малітвы. Альбо, калі хлопчыка назвалі Антонам, то бацькі спадзяюцца на апеку мудрага святога Антонія Пустынніка, альбо добрага Антонія Падуанскага, да якога вернікі вельмі часта звяртаюцца з рознымі просьбамі, альбо мучаніка з Беларусі, благаслаўлёнага Антонія Ляшчэвіча, чыёй мужнасцю мы захапляемся. Згадзіцеся, цудоўна й карысна мець чалавеку такіх апекуноў. Галоўнае, каб ён ведаў іх, штосьці ведаў пра іх жыццё і заслугі пры жыцці.

Важна таксама ведаць, што азначаюць нашыя імёны. Большасць з іх маюць замежнае паходжанне. А што азначаюць? Ці задумваемся мы над гэтым? Бо калі мы верым, што ўсё ў нашым жыцці невыпадкова, то тады будзем шукаць сэнсу ва ўсім, што перажываем, з чым сустракаемся, а тым больш нам тады захочацца ведаць усё пра тое, што тычыцца непасрэдна нас саміх.

Напрыклад, не цяжка здагадацца, што азначаюць імёны Багдан, Віктар, Вікторыя, Пётр, Багуслава. Іх значэнне змяшчаецца ўжо ў самім слове. А што, напрыклад, азначаюць



імёны Кацярына, Юры, Яраслаў, Эдвард? Кожнае імя мае сваё паходжанне, яно штосьці азначае.

Імя мае глыбокую сувязь з тым, хто яго носіць. Калі бацькі даюць нейкае імя свайму дзіцяці, то яны не толькі спадзяюцца, што нябесны апякун іх дзіцяці будзе апекавацца ім, але і што нейкія рысы, цноты святога, які ўжо ў небе, будуць уплываць на дзіця. Паміж імі ўжо існуе сувязь...

У некаторых сем'ях імяніны дзіцяці святкуюць больш шырока, чым дзень нараджэння, бо імяніны наўпрост звязаныя з адраджэннем дзіцяці праз святы хрост.

А ты ведаеш, што азначае тваё імя? У гонар каго назвалі цябе твае бацькі і чаму? Ведаеш, калі твае імяніны? Дарэчы, імяніны чалавек, вядома ж, святкуе ў дзень свайго нябеснага апекуна. А што рабіць, калі святых, якія насілі тваё імя, некалькі? Звычайна выбіраюць дзень таго святога, які знаходзіцца найбліжэй пасля дня нараджэння. Але гэта не абавязкова. Можа быць так, што асоба нейкага святога вельмі блізкая чалавеку па нейкіх якасцях, то і выбіраецца тады менавіта ён, незалежна ад ягонага дня ў каталіцкім календары.

Сябры, калі вы хочаце штосьці даведацца пра сваё імя, можаце напісаць нам. Паспрабуем разам разабрацца.

*Ірэна Задарожная*




*Мастак Аляксандра Страшко.*



# Прадаюць дзяцей

На адным з хрысціянскіх сайтаў з'явілася трывожная інфармацыя пра тое, што хрысціяне ў Бангладэш церпяць уціск і пераслед. Асабліва безабаронныя тут дзеці. Іх часта крадуць у бацькоў, каб потым прадаць у медрэсе (мусульманская школа) альбо адразу — у рабства за мяжу.

Злачынцы дзейнічаюць прыкладна так. Напачатку яны прапануюць бацькам, у якіх цяжкое матэрыяльнае становішча, аддаць дзіця нібыта ў нейкую сацыяльную арганізацыю, якая дапаможа гэтаму дзіцяці атрымаць адукацыю. Бацькі згаджаюцца, бо спадзяюцца, што іх дзіцяці так будзе лепш. А злачынцы, забраўшы дзіця, прымушаюць яго прыняць іслам, даюць яму новае, мусульманскае, імя і потым прадаюць. Многія з гэтых дзяцей трапляюць потым у багатыя арабскія краіны і вымушаныя прыслугоўваць у сем'ях багацеяў.

Біскуп Чытагонга Монзэс М. расказвае, што за апошні час 105 дзяцей намаганнямі хрысціянскай супольнасці ўсё ж былі вызваленыя і вернутыя ў сем'і. Але ўсё роўна гэтых дзяцей потым вымушаныя хаваць, каб бяда з імі не паўтарылася зноў.

*І. С.*
*Паводле сайту baznica.info*



# Усё невыпадкова



Гэтай дзяўчынцы мама з татам далі імя яшчэ да яе нараджэння. Так бывае: чалавек яшчэ не нарадзіўся, а яго ўжо моцна чакаюць у гэтым свеце, моцна любяць і называюць па імені. Дзяўчынку назвалі Камілай. І невыпадкова.

Імя Каміла насіла дачка класіка беларускай літаратуры і адданага патрыёта сваёй Айчыны Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Яна была адукаваная, высакародная, таленавітая ў музыцы і спевах. Як і яе бацька, Каміла была асветніцай і патрыёткай нашай Бацькаўшчыны. У самых складаных умовах яна заставалася вернай дачкой беларускага народа. Менавіта ў гонар Камілы Марцінкевіч гэтае ж імя атрымала і нашая гераіня — мінчанка Каміла Макаўчук.

Дзяўчынка нарадзілася 8 верасня, у свята Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі. Бацькі ўспрынялі гэта як Божы дар і далі сваёй дачцэ яшчэ адно імя — Марыя.

У сям'і і ў школе дзяўчынку найчасцей завуць Камілай, але яна любіць таксама імя Марыя і заўсёды з радасцю адгукаецца на яго. Яна лічыць Панну Марыю сваёй нябеснай апякункай і нябеснай Маці.

*Г. Абакунчык*

# Маё імя азначае...



Нямногія з нас задумваюцца над тым, што азначае нашае імя. Носім і носім яго, нібы звыклую рэч, адгукаемся на яго, называем яго, калі знаёмімся з іншымі людзьмі. А тым часам, працягваючы руку іншаму чалавеку, мы павінны быць гатовыя растлумачыць таксама, што азначае наша імя, у гонар каго яно нам дадзена. Ці заўсёды мы гатовыя адказаць на такія пытанні? Над гэтым задумаліся юныя вернікі з парафіі Маці Божай Ружанцовай, якая знаходзіцца ў Лошыцы (г. Мінск). Вось што з гэтага атрымалася...



Маім бацькам, мабыць, хацелася, каб я быў здаровы і каб мне не пагражалі ніякія небяспекі, бо імя Арцём гэта і азначае.

*Арцём Пшыгоцкі,*
*7 гадоў.*





У вёсцы, адкуль паходзяць мае бацькі, жыла вельмі добрая жанчына, якая насіла імя Юлія. У гонар яе яны і мяне назвалі. Маё імя азначае *пяшчотная, кучаравая.*

*Юля Мінцель,*
*12 гадоў.*



У аснове майго імя Мар'ян, што азначае *марскі*, ляжыць жаночае імя Марыя.

*Мар'ян Драздовіч,*
*6 гадоў.*

Вельмі люблю сваё

імя – Амэлія. Мне яго далі ў гонар маёй прабабулі, і азначае яно *добрая, працавітая*.



*Амэлія Рудкоўская,*
*6 гадоў.*



А мяне мама назвала так, бо я быў ёй адразу *мілы*. Таму я і Мілан. Гэта рэдкае славянскае імя.

*Мілан Рудкоўскі,*
*4 гады.*

Мяне назвалі ў гонар таты (Віктара) Вікторыяй, што азначае *перамога*! Люблю сваё імя.



*Вікторыя Папакуль,*
*7 гадоў.*

Уладзіслаў — гэта *той, хто мае славу*. Бацькам спадабалася гэтае імя, мне, дарэчы, таксама.



*Уладзіслаў Пшыгоцкі,*
*14 гадоў.*

Ганнай мяне захацеў назваць мой старэйшы брат. Бацькі былі не супраць, бо маё імя азначае *ласка*. У таты, да таго ж, Ганнай звалі ягоную цёцю.



*Ганна Турчак,*
*8 гадоў.*

А мне не вельмі падабаецца маё імя — Іван. Мяне так захацеў назваць тата. Азначае яно *міласць Божая*.



*Іван Турчак,*
*12 гадоў.*

Мне таксама імя выбраў тата — Уладзіслаў. Яно азначае – *той, хто мае славу*. Я люблю сваё імя.



*Уладзіслаў Каркоцкі,*
*10 гадоў.*

Маё імя Мікіта азначае *пераможца*. Мне яно падабаецца. Я рады, што бацькі далі мне менавіта яго.



*Мікіта Варонька,*
*11 гадоў.*

# Моцнае яйка



Курынае яйка на першы погляд слабое, але ў ім утрымліваецца незвычайная моц. Пра гэта сведчыць эксперымент, для якога спатрэбяцца яйка, пластылін, шмат манетаў і некалькі кніг.







**1.** З дапамогай пластыліну замацуй яйка так, каб яно стаяла перпендыкулярна.

**2.** Насупраць яйка ўстанаві два стосікі манетаў, роўных па вышыні з яйкам.




**3.** Усе прадметы павінны ўтвараць трохкутнік.




**4.** Асцярожна пакладзі першую кнігу на манеты і яйка. Потым пакладзі на іх яшчэ і яшчэ кнігі…




**5.** Колькі кніг вытрымалі тswitch манеты і яйка?

**6.** У нашага хлопчыка Віці іх было ажно 10!




## Чаму?

Форма, якую мае яйка, дае яму незвычайную моц па вертыкалі. Яно можа вытрымаць вялікі цяжар. Гэта заўважыў яшчэ ў 1400 годзе архітэктар Брунэлесі і, уражаны гэтым адкрыццём, сканструяваў купал базылікі ў Фларэнцыі.





## Увага:  конкурс

# Мой Будслаў

Сябры! Вы, напэўна ж, чулі, што сёлета наш Будслаў адзначае вялікае свята — 400 гадоў з'яўлення абраза Маці Божай у будслаўскай святыні.

У сувязі з гэтай падзеяй наш часопіс аб'яўляе конкурс «Мой Будслаў». У конкурсе могуць прыняць удзел усе нашы чытачы, якія ўмеюць прыгожа маляваць, складаць вершы, пісаць цікавыя апавяданні, вышываць, выразаць па дрэве... Словам, усе тыя, хто любіць Будслаў, Маці Божую Будслаўскую і хоча выказаць Ёй гэтую любоў. Лепшыя творы з'явяцца на старонках часопіса «Маленькі рыцар Беззаганнай».

Пераможцаў чакаюць узнагароды.

Вынікі конкурсу будуць апублікаваныя ў апошнім нумары часопіса за 2013 г.

**Свае працы дасылайце на адрас:**
**220030, г.Мінск, вул. Рэвалюцыйная,1а.**
**Альбо на e-mail: m.rycar@yandex.by**

## НАШ ЧАСОПІС У ІНТЭРНЭЦЕ

Сябры! Рады паведаміць вам, што наш часопіс можна гартаць і чытаць ужо і ў інтэрнэце. Знайсці яго магчыма па адрасе: **http://mrb.ave-maria.by**

Цяпер вы зможаце праглядаць нашыя часопісы і на камп'ютары. Ці ж гэта не класна? А таксама можаце дасылаць нам свае паведамленні, здымкі, лісты і на электронны адрас часопіса: m.rycar@yandex.by

Усё так проста — за некалькі хвілінаў мы можам атрымаць ад вас паведамленне! Расказвайце нам пра цікавыя падзеі, што адбываюцца ў вашай парафіі. Вядома, пра тыя, у якіх берыцё ўдзел непасрэдна вы, дзеці. Альбо падкажыце камусьці з дарослых зрабіць гэта. Будзем вельмі рады, калі вы будзеце дзяліцца з намі ўсім, чым жывяце вы, вашы сябры, бацькі, ваша парафія. Пішыце пра тое, што вас хвалюе, чым вы захапляецеся. Чакаем!

*Ваш Маленькі рыцар Беззаганнай.*

# Habemus Papam!

13 сакавіка новым Папам Рымскім быў абраны кардынал з Аргенціны Хорхе Марыё Берголье. Аб гэтым абвясцілі белы дым з коміна над Сікстынскай капэлай і званы базылікі святога Пятра.



Новы Папа Рымскі Францішак стаў 266-м пасля святога Пятра. Ён нарадзіўся ў сталіцы Аргенціны Буэнас-Айрэсе ў сям'і італьянскага эмігранта — работніка чыгункі. У дзень свайго абрання Папа заклікаў вернікаў маліцца, каб ва ўсім свеце настала сапраўднае братэрства. Таму падтрымаем гэты заклік і адкажам на яго:

*Ойча наш... Вітай, Марыя... Хвала Айцу...*






# Прыпавесці

**Прыпавесці гэта цудоўныя мудрыя творы, якія людзі складалі здавён. Невыпадкова ж і Хрыстус прамаўляў да нас, выкарыстоўваючы іх . Існуе шмат прыгожых хрысціянскіх прыпавесцяў, якія мы таксама будзем друкаваць для вас у нашым часопісе.**

# Мама

За дзень да таго, як нарадзіцца на свет, адно дзіця запытала ў Бога:

– Я не ведаю таго свету, у які іду. Што мне там рабіць?

Бог адказаў:

– Я падару табе анёла, які заўсёды будзе з табой. Ён усё табе растлумачыць.

– А як я зразумею яго, калі я не ведаю ягонай мовы?

– Анёл навучыць цябе сваёй мове. Ён будзе ахоўваць цябе ад усіх бедаў.

– Як і калі я павінен вярнуцца да Цябе?

– Твой анёл скажа табе ўсё.

– А як завуць майго анёла?

– У яго шмат імёнаў, але ты напачатку будзеш называць яго – мама.

*З кнігі 100 хрысціянскіх прыпавесцяў «Аднойчы...». — Масква: Трыяда, 2012.*










# І мы ў гэтым свеце



*Сакавік хоць і прынёс вясну,*
*ды зіма яшчэ не здаецца.*
*А вось на Святой Зямлі ў гэты час...*

*У такое цяжка паверыць, але ў гэты час*
*у Ізраілі буяюць кветкі, спеюць сабе*
*паціху лімоны ды мандарыны, у пустыні*
*шукаюць наедак казярогі, квітнеюць*
*палі гарчычнай травы, у вадаёмах*
*з асалодаю плёхаюцца нутрыі.*
*А некаторыя дрэвы не спяшаюцца*
*прачынацца — напрыклад, алівы. Яны*
*нібы яшчэ ўсё думаюць нейкую сваю думу.*





*Калі ж турысту пашчасціць сустрэць*
*восліка, то чаму б і не праехацца,*
*як гэта зрабіў мінулай вясною навапалачанін*
*Янка Лабунько. Тая радасць, перажытая*
*на Святой Зямлі, яшчэ доўга будзе яму*
*прыгадвацца — светла й шчасліва.*

# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

## *Чын пакаяння*





Святар заахвочвае прысутных усвядоміць свае грахі і папрасіць у міласэрнага Пана Бога прабачэння.

Прысутныя моляцца:

*Спавядаюся Богу ўсемагутнаму і вам, браты і сёстры...*

*...Пане, змілуйся над намі.*

*Хрыстэ, змілуйся над намі.*

*Пане, змілуйся над намі.*



У гэтай малітве мы вызнаем сваю грахоўнасць і адначасна выказваем глыбокі давер да Божай міласэрнасці.



У нядзелі і святы святар акрапляе вернікаў свянцонай вадой. Гэта нагадвае нам пра наш хрост і з'яўляецца знакам веры ў тое, што Пан Бог ачышчае нашыя сэрцы. Вернікі спяваюць і з удзячнасцю жагнаюцца ў часе акраплення.



# Сагнецца кожнае калена

**Пасланне да Філіпянаў**
*Раздзел 2, вершы 9–11*



Таму Бог узвысіў Яго, і даў Яму імя па-над усялякае імя, каб на імя Езуса схілілася кожнае калена стварэнняў нябесных, зямных і падземных, і каб кожны язык вызнаваў, што Панам ёсць Езус Хрыстус дзеля хвалы Бога Айца.



# Цудоўная таямніца

Шмат ёсць прыгожых імёнаў. Калі б хто калі вырашыў палічыць усе імёны, якімі людзі называюць сваіх дзяцей, нізавошта не злічыў бы. Адно прыгажэйшае за другое. У кожным народзе іх безліч. Але ёсць адно імя ў гэтым свеце, якое людзі вымаўляюць з асаблівай пашанай і любоўю. Гэтае імя — Езус. Яно дадзена хлопчыку, які больш за дзве тысячы гадоў таму нарадзіўся ў Бэтлееме. Дадзена Яму гэтае імя, якое «вышэй за ўсялякае іншае імя», самім Богам Айцом. Яно належыць Таму, Хто прыйшоў у наш грэшны свет, каб выратаваць усіх нас.

У гэтым святым імені — нашае збаўленне, бо яно мае незвычайную, Божую, моц і сілу. Невыпадкова ж на адно гэтае імя схіляюцца ў паклонах каралі, валадары, прэзідэнты. А калі хтосьці не можа ўкленчыць, то абавязкова схіліць галаву — у знак пашаны. Адна 90-гадовая бабулька ўжо даўно не можа прыгнуць спіну, схіліць галаву, а тым больш — стаць на калені. Але заўсёды, калі чуе імя Езус, яна заплюшчвае вочы. Магчыма, бачыць тады сябе малой дзяўчынкай, што кленчыла перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам і сыпала перад Ім кветкі ў часе ўрачыстых працэсій. Шмат гадоў прайшло з таго часу, а яна не перастала любіць Езуса. І гэта таксама цудоўная таямніца нашай веры.

# Гульні Загадкі



## ДЛЯ ТЫХ, ХТО ЧЫТАЕ БІБЛІЮ

*Загадкі ад дзядзькі Анатоля Клышкі*

Не нарадзіўся. Жыў без мамы.
Ад яго ж нарадзіліся і мы з вамі.
(....)

Хто ён – мудрэц?
Адкажы мне тады,
з імем «узяты з вады»?
(......)

Ной да пары ўсіх жывёлін
да сябе ў каўчэг сабраў.
А скажы, якую пару
ён чамусьці не забраў?
(....)

Быў анёлам, а стаў праціўнікам
ды паклёпнікам, «бацькам маны».
Хто ён, скажы.
(......)

Назаві мне імёны людзей,
з-за якіх і пайшла кругаверць,
калі на зямлі з'явілася смерць.
(.... , ...)

Які на свеце самы бясслаўны быў суд?
Які самы бясслаўны прысуд?
(Суд над ...... .......)

Цяпер згадай пра тую радасць,
калі на свеце знікне старасць?
(у ...)

Адкажы, узрадуй мудрасцю старога:
што горшае для нас за д'ябла
і лепшае за Бога?
(......)

*Як бачыце, сябры, на гэты раз нашы загадкі незвычайныя. Іх прыдумаў пісьменнік Анатоль Клышка. Чакаем адказаў. Пераможцы атрымаюць падарункі.*

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

*Адказы на* **«Загадкі з Евангелля»**, *змешчаныя ў №4 за 2012 г.*

З Назарэта; пра тое, што Анёл Божы расказаў пастухам; праз сон часам да чалавека прамаўляе Бог; бо так было сказана ў Святым Пісанні; прарок Ісая; на Ім быў Дух Божы; падрыхтаваць шлях для Пана Езуса.



Узнагароды часопіса за правільныя адказы атрымаюць: **Маргарыта Ясэпкіна** з Наваполацка, **Мікалай Томкавіч** з Вілейкі.

На жаль, не паспелі ў мінулы раз своечасова прыйсці ў рэдакцыю адказы на загадкі ад **Яны Сенько** з Вілейкі, **Яніны Мацкевіч** з Полацка, **Маргарыты Ясэпкінай** з Наваполацка і **Мікалая Томкавіча** з Вілейкі. Мы дзякуем усім вам за актыўны ўдзел у нашых конкурсах. Спадзяемся, што вы прымеце таксама ўдзел і ў конкурсе **«Мой Будслаў»** (умовы — на стар. 11). Жадаем вам новых поспехаў!

*Рэдакцыя*

# Крыжаванкі

## Мая сям'я



Прыгожа размалюй карцінку,
а пад вясёлкай намалюй сябе і сваю сям'ю.
Няхай гэтая карціна ўпрыгожыць ваш велікодны стол.
Смачнага яйка!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# Смяшынкі-Весялінкі

**Суразмоўца**

Псіхіятар пытаецца на прыёме ў мужчыны:

– Што вас турбуе?

– Доктар, дапамажыце: часта сам з сабой размаўляю.

– Але хіба гэта ўскладняе вам жыццё?

– Яшчэ як!

– Але чаму?

– Доктар! Вы не ўяўляеце, які я нудотны суразмоўца!

# Прыгоды ксяндза Лявона

## Зоркі

Ксёндз Лявон адчыніў дзверы сакрыстыі і аслупянеў: на стале ляжалі тры ружовыя канверты з нованароджанымі і пакрэктвалі сабе паціху.

— Дык вас ажно трое? — неяк зусім бессэнсоўна перапытаў ён у жанчыны, што стаяла пры іх, бо яно ж і так было зразумела — трое.

Жанчына развяла рукамі і нібы апраўдалася:

— Зараз бацькі прыйдуць, а я — бабуля.

Дзверы расчыніліся, на парозе з торбай адзення з'явіліся бацькі.

— Усе дзяўчынкі, — уздыхнуў тата і дадаў, — у нас цяпер такая бяда, спрачаемся во — не ведаем яшчэ, як назваць.

Ксёндз Лявон абурыўся:

— Як жа вы сабраліся хрысціць, а імёны яшчэ не прыдумалі?

Маладая маці паскардзілася:

— Гэта ж ён во кажа, што, можа, ксёндз нам параіць. Бо хоча, каб дзяўчаты нашы зоркамі былі.

— Зоркамі? — не зразумеў ксёндз Лявон.

Мужчына патлумачыў:



— Хочам назваць іх у гонар якіх-небудзь зорак. Ну, напрыклад: Вікторыя — у гонар Азаранкі, Валерыя — у гонар спявачкі… А трэцяй пакуль не прыдумалі. Можа…

Бабуля крутнула галавой і забедавала:

— Але ж і навыдумляюць абы-чаго — зорак ім, бачыш, падавай!

— А ў Пана Бога ці пыталіся? — задаў пытанне ксёндз Лявон усім адразу.

— Як гэта? — у адзін голас здзіўлена гукнулі мама з татам.

Ксёндз Лявон пацісную плячыма:

— Ну як? На малітве. А як яшчэ іначай? Не пыталіся, значыць, — сцвердзіў ён. — Дык давайце выправім гэта, памолімся зараз усе разам Ружанец за вашых дзяўчатак. Тата няхай іх пакуль у калясцы пакатае па цвінтары, але з ружанцам у руках! — узняў ён палец угору. — А мы пойдзем да алтара. Паклічце вашых хросных — ой-ёй, гэта ж хросных ажно шэсць чалавек — парафія…

Так і зрабілі. Маліліся ўсе разам, а тата з ружанцам гуляў з малымі па двары. А скончылі маліцца, ён першы і падбег да ксяндза:

— Ледзь дачакаўся! Як пачалі маліцца, яшчэ да першай таямніцы я ўжо ведаў, як хачу назваць нашых дачушак!

Маці засмялася і радасна выгукнула:

— Я таксама ведаю! Бо як маліўся ксёндз Лявон аб цнотах веры, надзеі і любові для нашых дзяўчынак, я адразу зразумела, як хачу іх назваць!

Потым аказалася, што і бабуля, і некалькі хросных падумалі тое ж самае.

— А вы казалі, як пытацца ў Пана Бога? — усцешыўся ксёндз Лявон. — Цяпер ведаеце? Вось вам і зоркі — яшчэ як будуць свяціць: Вера, Надзея, Любоў!

***Прыгоду запісала І. Ж.***

# Галерэйка



«Пасхальны пачастунак»,
Уладак ЖУК, 8 гадоў, г. Браслаў.



«Цяжар крыжа»,
Надзея ПЯТУШКАВА, г.п. Астравец.




Яна СЯНЬКО, г. Вілейка.



«Пад цяжарам крыжа»,
Максім ЛОКЦЕЎ, г.п. Астравец.



«Тры святыя арханёлы»,
Яна МАЦКЕВІЧ, г. Полацк.



«Малітва»,
Каця ПРУСАКОВА, г. Браслаў.



«Цудоўны ўлоў»,
Каця ЮРКЕВІЧ, г. БРАСЛАЎ.

